ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.27 (3147) ● ● ЧАЦВЕР, 23 ліпеня, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



"Кватэрнае пытанне" ў гушчары лесу

Акцыя "Дом для арла" дапамагае захаваць рэдкія віды птушак Стар. 2



Знічкі Айчыны Стар. 3



З юбілеем, пан Быкоўскі!

Народны артыст Беларусі Арнольд Памазан сыграў сваю знакавую ролю ў спектаклі "Паўлінка" ўжо больш за тысячу разоў Стар. 4

ПАДЗЕЯ

# Стваральны рэсурс дыяспары

## Больш за 200 дэлегатаў з 17 краін прадстаўлялі замежныя суполкі нашых суайчыннікаў на Пятым з'ездзе беларусаў свету, які прайшоў у Мінску

Іван Ждановіч

Хто я ёсць? З пошукаў адказу на гэтае пытанне, як вядома, і пачынаецца "чалавек свядомы". Ад беларусаў жа як нацыі глабалізаваны свет сёння настойліва вымагае канкрэтнага адказу на даўні, яшчэ купалаўскай пары запыт: хто ж вы ёсць?

Здавалася б, ну якія могуць быць сумненні? "Мы — беларусы, мірныя людзі…" — дэкларуе найпершы радок Дзяржаўнага гімна. "Беларус — гэта як своеасаблівы знак якасці для чалавека, нашы суайчыннікі выдатна праявілі сябе ў космасе, у навуцы і іншых адказных сферах дзейнасці," — з гонарам гаварыў на з'ездзе адзін маскоўскі дэлегат. Прыводзіліся, аднак, і факты сацыяльнай пасіўнасці, непраяўленасці "беларускага складніка" ў жыцці нашых суайчыннікаў за мяжой. У прыватнасці, аргументавана гаварыў пра гэта доктар гісторыі Янка Запруднік. Як вядома, паводле неафіцыйных лічбаў у замежжы пражывае больш за тры мільёны беларусаў. Аднак падчас перапісаў у шэрагу краін, на тым жа амерыканскім кантыненце, статыстыка фіксуе "нашых" мізэрнымі лічбамі. Бо многія з іх па розных прычынах, пра якія таксама гаварылася, самі сябе не лічаць беларусамі. І зусім не выпадкова пазначана была ў дакументах з'езда асноўнай для абмеркавання тэма нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў у сучасным свеце, а таксама праблемы яе захавання і развіцця. А словы "хто мы ёсць" гучалі з вуснаў розных выступоўцаў і з гонарам, і з болем, і з жаданнем быць карыснымі для Бацькаўшчыны — "бо толькі разам мы моцныя".

На з'езд былі запрошаны прадстаўнікі дыппрадстаўніцтваў шэрагу замежных краін, кіраўнікі беларускіх дзяржаўных структур. Міністр культуры Павел Латушка і Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Леанід Гуляка расказалі на пленарным пасяджэнні пра тое, што робіцца цяпер у Беларусі дзеля захавання і прымнажэння культурнай спадчыны. "Дыялог беларускай дзяржавы і дыяспары павінен прывесці да такога ўзаемаразумення, каб мы ўжо не былі бакамі, а разам ажыццяўлялі добрыя справы на карысць сваёй Айчыны", — перакананы П.Латушка. Абвяргаючы меркаванне, быццам улады Беларусі мала працуюць над умацаваннем культурнай ідэнтычнасці нацыі, ён нагадаў пра вялікую работу ў апошнія гады ў сферы будаўніцтва, рэстаўрацыі культурных аб'ектаў, правядзення фестываляў нацыянальнай культуры, пастаноўкі новых п'ес на гістарычныя тэмы. "Гэты працэс культурнага адраджэння можна назваць буйнейшым за апошняе дзесяцігоддзе", — лічыць Павел Латушка.



Лідзія Мацітэлі — дэлегат з Італіі



У зале з'езда было шматлюдна

Між іншым, кіраўнік згуртавання "Бацькаўшчына" Аляксей Марачкін, які меў прамову пасля міністра, заўважыў, што "шмат выкрасліў са свайго даклада". Дарэчы, новым кіраўніком аб'яднання абрана Алена Макоўская. Пэўна, добрая інфармаванасць — залог таго, што ў нашых суайчыннікаў надалей будзе менш нагодаў для непаразуменняў з прадстаўнікамі дзяржавы, а значыць, пашырыцца пляцоўка для плённага супрацоўніцтва. "Мы расцэньваем вас як паўнацэнных партнёраў", — гэтыя словы міністра культуры зала сустрэла апладысментамі. Многія нашы землякі, выступаючы на з'ездзе, і самі выказалі гатоўнасць да шырокага ўзаемадзеяння з уладамі на карысць Беларусі, дзеля пераадолення наступстваў фінансавага крызісу. Пра жаданне паспрыяць развіццю краіны, беларускай нацыі гаворыць і шэраг зваротаў, прынятых на з'ездзе ў адрас дзяржаўных органаў.

Цікава, што ідэя правядзення менавіта фестывалю беларусаў свету была агучана рознымі людзьмі і сустрэла шырокае адабрэнне. Так што, землякі, да новых сустрэч!

ВЕСТКІ

# Экспанаты дапамагаюць зразумець мінулае

Жанна Катлярова

**Гісторыкі зрабілі ўсё магчымае, каб захаваць успаміны сведак часу Вялікай Айчыннай вайны, адвагу і ўдзельнікаў тых трагічных падзей**

Такую ацэнку ўкладу беларускіх вучоных даў на міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Партызанскі рух у Беларусі і яго роля ў разгроме фашысцкіх захопнікаў у 1941–1945 гадах" Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Аб'яднанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі ў Беларусі Найджэл Гулд-Дэвіс.

"Чым больш мы даведваемся аб Вялікай Айчыннай вайне, тым усё болей разумеем, якія цяжкія выпрабаванні перанёс беларускі народ на акупаваных тэрыторыях, які вялікі ўклад беларусаў у тую барацьбу", — падкрэсліў дыпламат.

Найджэл Гулд-Дэвіс таксама падзяліўся сваімі ўражаннямі аб нядаўнім наведванні Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Калекцыя дзённікаў і запісных кніжак, якія вялі беларускія партызаны, зрабіла на дыпламата глыбокае ўражанне. "У дзённіках адлюстравана ўся гісторыя партызанскага руху. Наша пасольства разглядае магчымасць, каб гэтыя унікальныя экспанаты былі паказаны ў многіх краінах", — адзначыў пасол.

# Агульныя клопаты і здабыткі

## На прэс-канферэнцыі ў Мінску Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Леанід Гуляка расказаў журналістам пра этнаканфесійныя адносіны ў краіне і супрацоўніцтва з суайчыннікамі за мяжой

Галіна Братко

Леанід Гуляка прывёў апошнія лічбы, што характарызуюць узровень рэлігійнага і этнакультурнага жыцця. У Беларусі, дзяржаве шматнацыянальнай і шматканфесійнай, сёння праводзіцца ўстойлівая дэмакратычная палітыка, якая скіравана на свабоднае развіццё культур, моў, традыцый народаў, што жывуць тут, роўнасць і павагу да ўсіх дзеючых канфесій, падтрымку суайчыннікаў замежжа. На пачатку гэтага года ў нас былі зарэгістраваны 3062 рэлігійныя абшчыны 25 розных рэлігійных канфесій і кірункаў. Агульная колькасць рэлігійных арганізацый дасягнула 3218. Так, Беларуская праваслаўная царква мае ў сваім складзе 1473 прыходы, 5 духоўных навучальных устаноў, 31 манастыр, 1274 дзеючыя храмы і 150 яшчэ будуецца. Колькасць праваслаўных вернікаў у Беларусі найвялікшая — 82 працэнты.

Католікі складаюць прыкладна 12 працэнтаў вернікаў. Рымска-каталіцкая царква ў Беларусі мае 8 кляштараў, 451 касцёл, 35 каталіцкіх храмаў узводзіцца. Многія беларускія рэлігійныя храмы далучаны да спісу помнікаў архітэктуры. У іх аднаўленні бярэ ўдзел дзяржава, выдаткоўваючы грошы з дзяржаўных фондаў. Цяпер, у прыватнасці, пры Упаўнаважаным створаны Міжканфесійны савет. Арганізацыя кіраўніцтва саветам будуецца па прынцыпе ратацыі. Дзейнасць савета дае дадатковую магчымасць хутка і эфектыўна на дзяржаўным узроўні вырашаць разнастайныя пытанні рэлігійнага жыцця. Л.Гуляка прывёў некалькі прыкладаў таго. Так, у вёсцы Волчын у Брэсцкай вобласці мясцовыя ўлады вырашылі перадаць будынак старога каталіцкага храма пад музей. Наогул, задума нядрэнная. Але вернікі не пагадзіліся і звярнуліся па дапамогу да Упаўнаважанага. Той іх падтрымаў. Цяпер ідзе аднаўленне волчынскага касцёла як культавай установы. Ці вось што адбылося ў Нясвіжы. Там старую плябанію — дом святара — збіраліся выставіць на таргі. Дагэтуль у будынку месціліся розныя дзяржаўныя ўстановы горада і раёна. Яны выехалі ў іншыя памяшканні, і плябанія засталася пуставаць. Тут таксама спатрэбілася ўмяшальніцтва Упаўнаважанага. Цяпер дом перададзены касцёлу.

→ Стар. 2

# Займальнае падарожжа

## Выдавецтва “Мастацкая літаратура” выпусціла кнігу-гульню пра Мінск

**Ігар Строеў**

Навінка пад назвай “Мінск: падарожжа па горадзе (гістарычныя даведкі)” ужо з’явілася на прылаўках і карыстаецца вялікай папулярнасцю. Асабліва ў дзяцей, на якіх і разлічана. У кнізе аўтары паспрабавалі папулярна расказаць пра гісторыю і сучаснае жыццё горада, прычым зрабіць гэта ў незвычайным фармаце. Галоўная іскрынка выдання ў тым, што да яго прыкладзена так званае гістарычнае лато, гуляючы ў якое можна будзе замацаваць свае веды па гісторыі і літаратуры. Сярод дзесяткаў аб’ектаў, намаляваных на карцінках-”фішках”, — касцёл святых Сымона і Алены, гарадская Ратуша, манумент Перамогі, Нацыянальны мастацкі музей, Нацыянальная бібліятэка. Таксама тут ёсць партрэты нашых славутых землякоў — Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, Стэфаніі Станюты і многіх іншых.

— Гэтая кніга — першая на постсавецкай прасторы. Ні ў Расіі, ні ў нас раней такога не выдавалася, — гаворыць галоўны рэдактар выдавецтва “Мастацкая літаратура” Віктар Шніп. — Ідэя прыйшла ў галаву адной нашай супрацоўніцы падчас замежнай камандзіроўкі. Вырашылі паспрабаваць і не памыліліся. Думаю, у першую чаргу выданне будзе цікавым дзецям, але і дарослыя ад гульні таксама атрымаюць задавальненне. Ведаю па сабе: зацягвае!

Хутка “Мастацкая літаратура” выпусціць падобныя кніжкі аб Гродне і Барысаве. У перспектыве тэматыка можа быць пашырана: у гульнёвай форме дзецям раскажуць аб прыродным і раслінным свеце краіны. Выданні такога фармату могуць стаць добрымі дапаможнікамі настаўнікам, экскурсаводам, пры правядзенні віктарын і конкурсаў.


БЕЛТА
Новая кніга — цікавы субяседнік

# Агульныя клопаты і здабыткі

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Важна толькі, падкрэсліў Леанід Гуляка, каб новыя гаспадары мелі магчымасць і сродкі прывесці пабудовы ў належны стан. А яшчэ, перакананы ён, не трэба ўспрымаць падобныя выпадкі як процістаянне царквы і дзяржавы. Такога няма і не будзе. Увогуле, дзяржава вельмі ўважліва падыходзіць да патрэб вернікаў. Так, улічваючы, што ў Беларусі пакуль недастаткова святароў, найперш каталіцкіх, штогод падпісваецца Указ Прэзідэнта, па якім навучэнцы духоўных навучальных устаноў вызваляюцца ад службы ў арміі. Больш таго, да іх далучаюцца і тыя маладыя святары, што ўжо працуюць у парафіях і іх няма кім замяніць.

Што тычыцца нацыянальнай сферы, то і тут робіцца стаўка на супрацоўніцтва, узаемапаразуменне і дэмакратызм, адзначыў Леанід Гуляка. Нядаўна пры Упаўнаважаным створаны новы грамадскі орган самакіравання — Кансультацыйны савет нацыянальна-культурных аб’яднанняў, куды ўваходзяць кіраўнікі ўсіх такіх існуючых 24-х арганізацый. Цікавая акалічнасць: апошнім часам грошы, што выдаткоўвае дзяржава на падтрымку дзейнасці нацыянальна-культурных суполак у Беларусі, дзеляць менавіта на пасяджэннях гэтага савета, нават без удзелу самога Упаўнаважанага ці супрацоўнікаў яго апарата.

Сярод бліжэйшых задач, сказаў Л.Гуляка, — стварэнне Кансультацыйнага савета кіраўнікоў беларускіх нацыянальных суполак за мяжой. Таксама выношваецца вельмі цікавая задумка — арганізаваць вялікі фестываль беларусаў свету, падобны на гродзенскі фестываль нацыянальных культур. Калі атрымаецца — будзе вельмі цікава і карысна, упэўнены Леанід Гуляка.

# “Кватэрнае пытанне” ў гушчары лесу

## Акцыя “Дом для арла” дапамагае захаваць рэдкія віды птушак

**Дзмітрый Альфер**

У некранутым цывілізацыяй кутку прыроды — Бярэзінскім біясферным запаведніку — жывуць усе прадстаўнікі флоры і фауны Беларусі. Гонар нацыянальнага парка — векапомны лес, які дае прытулак шасці тысячам біялагічных відаў, некаторыя з якіх у свеце больш не сустракаюцца. Раслін і жывёл тут да таго шмат, што прырода часам не паспявае клапаціцца аб усіх сваіх стварэннях. І тады на дапамогу прыходзіць чалавек. Напрыклад, днямі ў запаведніку пачалася акцыя “Дом для арла”, мэта якой — будаўніцтва гнёздаў для рэдкіх птушак.

“Дзеля чаго рабіць штучныя “кватэры”, калі птушкі іх і так уюць?”, — надакучваў я арганізатару акцыі краязнаўцу Сяргею Плыткевічу па дарозе ў запаведнік. І высветлілася, што ўласнае жытло на дрэвах ствараюць не ўсе. Некаторыя птушкі засяляюцца ў гнёзды, якія раней былі пабудаваны іх суродзічамі. Дом патрэбен арлу, а таксама і сокалу, арлану, беркуту, змеяеду, скапе. Заўважце, з гэтых відаў большасць адносіцца не проста да рэдкіх птушак, а занесена ў Чырвоную кнігу.

Незаселеныя гнёзды з кожным годам знайсці ўсё цяжэй. Таму энтузіясты-арнітолагі пачалі дапамагаць птушкам у вырашэнні “жыллёвага пытання”. “Мы, натуральна, не можам быць цалкам упэўнены, што птушка заселіцца менавіта ў штучную кватэру. Але разлічваем на гэта. Месцы, найбольш прыдатныя для будаўніцтва гнёздаў, выбіралі арнітолагі з аб’яднання “Ахова птушак Бацькаўшчыны”. Яны таксама прымаюць удзел у акцыі”, — тлумачыць Сяргей Плыткевіч.

Лятаючыя драпежнікі нездарма лічацца ўладарамі паветра. Яны выбіраюць жытло на ўласны густ — як мага далей ад чалавечага вока. Звычайна гэта дрэвы са зручнай для падлёту кронай, якія высяцца ў гушчары. Такіх мясцінаў у запаведніку дастаткова. Большую частку яго тэрыторыі займаюць лясы, якія раслі тут на працягу тысячагоддзяў. Таму не дзіва, што край дзікім птушкам прыйшоўся даспадобы. Людзі ў тутэйшую, насычаную зялёнымі фарбамі квітнеючай летняй прыроды пушчу заходзяць рэдка. У гэтым я пераканаўся, паблукаўшы па калена ў вадзе ў пошуках запаветнага дрэва, якое птушка можа абраць месцам свайго жыхарства. Ісці прыйшлося доўга. Да таго ж, свежае лясное паветра дапамагае развагам: неўзабаве прыйшла думка, што будаваць жытло для птушак могуць асобы па-сапраўднаму апантаныя любоўю да прыроды. Інакш не хадзілі б яны па балотах, не караскаліся б па вялікіх дрэвах. А ці ж лёгка ўмацоўваць пад праліўным дажджом некалькі гадзін запар каркас будучага гнязда?..


СЯРГЕЙ ПЛЫТКЕВІЧ
Удзельнікі акцыі ў пошуках прыдатнага дрэва для будаўніцтва гнязда

Больш за ўсё ўразіла, што такіх неабыякавых людзей сустракаецца ўсё больш. Да акцыі “Дом для арла” далучыліся першыя валанцёры. Праз некалькі месяцаў, пасля праходжання пэўнай падрыхтоўкі, яны здолеюць самастойна вызначаць месцы, якія выбірае для жыцця птушка, і пачнуць будаваць там гнёзды.

З Бярэзінскага біясфернага запаведніка акцыя пачалася, і, па задуме, распаўсюдзіцца ўсюды, дзе гняздзяцца крылатыя драпежнікі. “Калі стане вядома, што ў нашых лясах арнітолагі сваімі рукамі будуюць на дрэвах жытло для птушак, стаўленне людзей да прыроды памяняецца ў лепшы бок. Яны праявяць больш клопату да навакольнага асяроддзя. Як вядома, кожная жывая істота на свеце выконвае ўласную, карысную для іншых функцыю, і без яе экалагічная раўнавага парушыцца”, — разважае Сяргей Плыткевіч.

Арганізатары акцыі “Дом для арла” з упэўненасцю ўзяліся за справу. І гэта падказвае, што іх намаганні дадуць плён.

# Хуткасць і камфорт

**Вольга Бяляўская**

**Беларуская чыгунка плануе замяніць пасажырскія цягнікі лакаматыўнай цягі на сучасныя электрадызельпаязды**

Электрадызельпаязды змогуць перавозіць пасажыраў паміж абласнымі цэнтрамі з хуткасцю да 140 кіламетраў у гадзіну, што дазволіць значна эканоміць час пасажыраў. Абнаўленне парку рухомага складу — адзін з прыярытэтных напрамкаў дзейнасці Беларускай чыгункі. “Наша задача — ствараць максімальна зручныя ўмовы для перавозак пасажыраў, у першую чаргу за кошт павелічэння хуткасці цягнікоў пры руху як унутры краіны, так і за яе межамі, — сказаў кіраўнік пасажырскай службы Беларускай чыгункі Аляксей Калачоў. — Над гэтым цяпер працуюць усе структуры Беларускай чыгункі. Сумесна з Расіяй мы таксама займаемся праектам па павышэнні хуткасці цягнікоў у кірунках на Маскву і Берлін”.

Паводле слоў Аляксея Калачова, з канца 2008 года аб’ем пасажыраперавозак па Беларускай чыгунцы ў міжнародных зносінах скараціўся, што абумоўлена ў першую чаргу наступствамі сусветнага фінансава-эканамічнага крызісу. Напрыклад, за першае паўгоддзе сёлета такія перавозкі зменшыліся амаль на 20 працэнтаў. У той жа час аб’ём перавозак пасажыраў непасрэдна ў краіне за гэты перыяд вырас на 7 працэнтаў у параўнанні з аналагічным леташнім.

Углядаючыся ў сцены палаца-паркавага ансамбля ў Жылічах, што размешчаны ў сучасным Кіраўскім раёне, разважаю пра тое, а хто ж тут вандраваў альбо бавіў час, альбо пралятаў імгненна ўзбоч, прыкладам, на пачатку дваццатага стагоддзя?.. Каларытны малюнак Напалеона Орды ўзнаўляе дарогу да палаца-прыгажуна, які, на шчасце, захаваўся ў часе, а таксама падарожнікаў ці мо гаспадароў, якія з малым дзіцем ідуць да сядзібы…

# Знічкі Айчыны


Жылічы (Добасна). Галоўны ўваход палаца. Пачатак XX ст.


Жылічы (Добасна). Парк, сажалка. Пачатак XX ст.


Жылічы (Добасна). Вялікая зала палаца. Пачатак XX ст.


Жылічы (Добасна). Унутраны дворык палаца. Пачатак XX ст.


Жылічы (Добасна). Палац. Пачатак XX ст.


Жылічы (Добасна). Унутраны дворык палаца. Пачатак XX ст.

**Алесь Карлюкевіч**

А гістарычная памяць падказвае, што з гэтых мясцін родам паэт і літаратурны крытык Яўген Замерфельд. Нарадзіўся ў Жылічах у 1912 годзе. Літаратурныя яго шляхі-дарогі пачаліся зусім блізка ад роднай Кіраўшчыны — першыя вершы надрукаваў у літаратурным дадатку да бабруйскай газеты "Камуніст". Пасля Вялікай Айчыннай вайны жыў у Бабруйску, выкладаў у Барысаўскім педагагічным вучылішчы, а затым у сярэдніх агульнаадукацыйных школах. Аўтар артыкулаў пра творчасць народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. Шкада, што Яўген Замерфельд не пакінуў успамінаў пра маладосць, дзяцінства. Інакш, відаць, распавёў бы і пра магнатаў, што валодалі такой прыгажосцю на беразе ракі Добасна. Пэўна ж, старэйшы мясцовы люд добра ведаў і перадаваў сваім нашчадкам аповеды пра Ігнація Булгака, з якога і пачалося адраджэнне, а мо хутчэй і ўзлёт маёнтка Добасна. Добасна, Жылічы сёння, лічы, зліліся ў адну цэльную прастору, амаль што ў адно паселішча… Мо пракаменціраваў бы пісьменнік, літаратурны крытык і гэтыя памяткі з гісторыка-дакументальнай хронікі: "…Добасненскі маёнтак…трапіў да Ігнація, які, выконваючы ўмову для ўладання ім, пастаўленую яго дзядзькам Ігнаціем, скончыў Дэрпцкі універсітэт. Двойчы быў у шлюбе — першы раз з Ізабэлай, дачкой Юзафа Слізіня, маршалка бабруйскага, а пасля яе смерці з роднай сястрой Ізабэлы — Тэрэзай, пакінуўшы пецярых сыноў і чатыры дачкі. У выніку гэтых шлюбаў уладанні Ігнація дасягнулі 27 000 дзесяцін зямлі. Адпаведна свайму дабрабыту і грамадскаму становішчу І. Буглак вырашыў стварыць рэпрэзентацыйную рэзідэнцыю, якая б зацямніла ўсе папярэднія ў Беларусі. Для рэалізацыі гэтай ідэі ён спыніўся на Добасне, дзе стаяў стары сядзібны дом. Адукаваная асоба, Ігнацій Булгак ваяваў у рускай арміі супраць Напалеона. Пасля смерці Ігнація ў 1857 годзе маёнтак Добасна (налічваў 173 прыгонных, ацэньваўся ў 258 тысячы рублёў) перайшоў да яго сына Эдгара Булгака, які пачаў яго пашырэнне і з'яўляўся ўладальнікам да 1917 года. У адрозненнне ад свайго брата Іосіфа, гаспадара суседняга маёнтка Чыгірынкі, Эдгар не абзавёўся сям'ёй і жыў пераважна за мяжой. Пакінуты на кіраўніка Вітальда Булгака маёнтак, верагодна, не пакрываў велізарныя затраты на жыццё за мяжой і таму эксплуатаваўся на знос, без уліку перспектывы развіцця. Зямля здавалася ў арэнду дробным гаспадарам, не здольным весці інтэнсіўную, з выкарыстаннем агранамічнай навукі, гаспадарку. Лес высякаўся, ішоў на продаж. Аднак палац і парк даглядаліся старанна, добра захоўваліся да 1917 г., да эміграцыі Э. Булгака за мяжу. Родавая капліца-пахавальня Булгакаў была ўзведзена ў суседняй вёсцы Пархімкавічы…"

З гэтых жа мясцін родам і пісьменнік Уладзімір Іларыёнавіч Савіцкі (нарадзіўся ў Добасне ў 1914 годзе). Прайшоў няпростымі ваеннымі дарогамі. Быў камандзірам мінамётнага ўзвода, палкавой артылерыйскай батарэі. А напрыканцы 1944 стаў ваенным карэспандэнтам. У 1972 годзе ўступіў у Саюз пісьменнікаў СССР. Аўтар раманаў і аповесцяў "Людзі пярэдняга краю", "Ішлі салдаты", "Ні хвіліны спакою", "Алёнка з Доўгіх Ніваў" ды яшчэ шэрагу паэтычных зборнікаў. А ў 1935 годзе ў Добасне нарадзіўся Віталь Дзмітрыевіч Савіцкі, які таксама спярша паспытаў вайсковага лёсу, а затым заняўся літаратурнай работай. Выдаў кнігі "Радасць зямлі", "Вакол забытага калодзежа". І цяпер друкуецца ў "Нёмане", "Маладосці", іншых літаратурна-мастацкіх выданнях Беларусі і Расіі. І цяпер жыве ў роднай Добасне.

Кіраўск, Кіраўскі раён — сапраўды, радзіма многіх пісьменнікаў і паэтаў. У вёсцы Кострычы нарадзіўся ў 1915 годзе знакаміты крытык, арганізатар выдавецкай справы Янка Казека. У 1930-я гады працаваў у Бабруйску, спярша — на дрэваапрацоўчым камбінаце. Затым — у рэдакцыі шматтыражнай газеты "За ўдарныя тэмпы". Аўтар кніг "Беларуская байка", "Кузьма Чорны і старонкі творчасці", "Кандрат Крапіва", "Натхненне і майстэрства", "З невычэрпных крыніц", "Гартаванне слова". Дзякуючы руплівасці Івана Дарафеевіча Казекі ў гісторыі прыгожага пісьменства засталіся ўкладзеныя ім кнігі пісьменніцкіх аўтабіяграфій — "Пяцьдзесят чатыры дарогі", "Пра час і пра сябе", "Вытокі песні". Па іх можна адкрываць многія старонкі летапісу айчыннай літаратуры. З вёскі Лешчанка — празаік Мікола Лук'янаў (нарадзіўся ў 1924 годзе). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, быў цяжка паранены, страціў зрок. Аўтар аповесці "І цемра адступіла", надрукаванай у часопісе "Маладосць". Шмат намаганняў па развіцці літаратурных талентаў ураджэнцаў Кіраўшчыны робіць празаік і публіцыст Уладзімір Пятровіч Саламаха (нарадзіўся ў Бераснёўцы ў 1949 годзе). Доўгі час працаваў у часопісе "Маладосць". Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, якую атрымаў за літаратурна-крытычную працу. За апошнія тры дзесяцігоддзі да чытача прыйшлі яго кнігі абвостранай, пранікліваў у жыццё мастацкай прозы — "На ўзмежку радасці", "Расступіся, зямля", "Заўтра ў дарогу", "Прывід у скураным крэсле", "Цяпло чужога сэрца", "Напрадвесні"…

Таленты, выгадаваныя на Кіраўшчыне, у ваколіцах Добасны, Жыліч, — гонар, упрыгажэнне беларускай літаратуры і культуры. І святло гэтае было запалена не сёння, а, канешне ж, папярэднімі пакаленнямі, папярэдняй гісторыяй прыгожага і мілага куточка старажытнай, багатай на гісторыю Магілёўшчыны.

© В поисках утраченного — Паштоўкі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава

# Край Блакітных азёраў,

## альбо Шлях у дзвесце кіламетраў, які не стамляе

**Юлія Логвінава**

У многіх суайчыннікаў, якія жывуць за мяжой, часам узнікае жаданне прыехаць на Радзіму, каб узгадаць пра старадаўнюю, не прыгладжаную асфальтам і не пазначаную сучаснымі індустрыяльнымі будынкамі векапомную Беларусь. Менавіта такім людзям даспадобы прыйдзецца распрацаваны на Міншчыне турысцкі маршрут “Сем цудаў прыроды”.

Вандроўка ў дзвесце кіламетраў зойме некалькі дзён, якія абяцаюць яскравыя ўражанні і нават адкрыцці. Падарожжа пачнецца на беразе ракі Віліі. Уздоўж воднай плыні вандроўнікі дабяруцца да Вілейкі, дзе наведаюць царкву Марыі Егіпецкай і Крыжаўздзвіжанскі касцёл з яго рознакаляровымі фрэскамі і драўлянымі скульптурамі святых — майстры стварылі іх яшчэ ў XVII стагоддзі. Далей маршрут пракладзены праз вёску Камена, дзе турыстаў сустрэне каменны Варацішын крыж. Кажуць, што, патрымаўшыся за яго, можна загадаць жаданне, якое абавязкова спраўдзіцца. Потым шлях прывядзе ў шматканфесійнае мястэчка Даўгінава, дзе амаль што побач знаходзяцца касцёл, праваслаўная царква і сінагога. І, канешне ж, не абмінуць вандроўнікі Будслаў — у яго касцёле Узнясення Прасвятой Дзевы Марыі знаходзіцца цудоўны абраз Божай Маці.

Мядзель павітае дапытлівых кляштарам кармелітаў. Там можна агледзець і руіны гарадзішча часоў Полацкага княства, што захаваліся на востраве Замак. “Сем цудаў прыроды” — гэта і Блакітныя азёры, і возера Нарач. Вылучаецца ў маршруце і гэтак званая ніцая ёлка, адзіная ў Беларусі: яна расце ў вёсцы Касцяневічы. Дрэва было завезена на пачатку мінулага стагоддзя з Варшавы.



**На маршруце падарожнікаў — прыгожыя краявіды**

На працягу ўсяго падарожжа пілігрымаў будуць вітаць гаспадары сельскіх сядзібаў, у якіх можна падсілкавацца стравамі нацыянальнай кухні. А тым, хто пажадае правесці ноч пад адкрытым небам, прытулак прапануе палатачны лагер: песні пад гітару і печаная ў вуголлі бульба забяспечаны.

Варта заўважыць, што ўсю адлегласць падарожнікі перадольваюць пешшу. Гэта дазваляе кожнаму адчуць сябе сапраўдным вандроўнікам, нацешыцца натуральнай прыгажосцю краіны блакітных валошак і празрыстых азёр, адчуць веліч гісторыі. Галоўнае, што спатрэбіцца падчас збораў у падарожжа — захапіць не толькі заплечнік, але і пазітыўны настрой.

**АСОБЫ**

# З юбілеем, пан Быкоўскі!

## Народны артыст Беларусі Арнольд Памазан сыграў сваю знакавую ролю ў спектаклі “Паўлінка” ўжо больш за тысячу разоў

**Іван Ждановіч**

“У мяне заўсёды было адчуванне, што Янка Купала, калі пісаў “Паўлінку”, палову сэрца аддаў Паўлінцы, а палову Быкоўскаму, — прызнаўся Арнольд Памазан у адным з інтэрв'ю. — У Купалы ж таксама франтаўства было, менавіта не фанабэрыя, а франтаўство. У гэтай ролі знешні малюнак вельмі багаты, многа пластыкі, танцаў. А я ж з маладосці сам быў і пявун, і танцор, і франт…” Ён і не крыўдуе, калі яго нехта ў Мінску ці іншым месцы Беларусі прызнае часам за Адольфа Быкоўскага. “Ой, пане Быкоўскі!.. Ды як жа вас не пазнаць?.. А вазьміце вось маіх гурочкаў, я вам дзешавей аддам!” – падобныя вясёлыя сустрэчы здараюцца ў Арнольда Кандратавіча і цяпер, і не толькі з дасціпнымі гандляркамі з мінскага Камароўскага рынка. Хоць гэтую ролю ў спектаклі цяпер іграе Алег Гарбуз, яго маладзейшы калега з Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

А “Паўлінка”, як вядома, даўно стала візітнай карткай купалаўцаў, яе паглядзелі дзесяткі тысяч мінчан, гасцей сталіцы і гледачы тых гарадоў замежжа, дзе артысты бывалі на гастролях. Дзякуючы ж тэлеверсіі спектакля яго герояў ведае ўся краіна. У чарговы раз пастаноўка з аншлагам ішла ў Купалаўскім у гонар адметнага прадстаўніка “старога пакалення” купалаўцаў Арнольда Памазана. У коле добрых сяброў, калег, тэатральнай публікі акцёр адзначаў 70-годдзе.

Гледачы сустрэлі яго з'яўленне на сцэне ў ролі пана Быкоўскага авацыяй. Ён быў, як заўсёды, далікатна-абыходлівы з Паўлінкай, самаадданa спяваў і танчыў пад здзеклівыя рэплікі сялян, выклікаючы дружны смех у зале. Так, ён хвалько, ён напышлівы і да смешнага манерны. А, між іншым, у гэтага пана, які часам пасуе перад грубавата-задзірыстым сялянскім напорам, можна і павучыцца ўменню мірна весці дыялог, не зневажаючы субяседніка, з якім не згодзен. І яшчэ на гэты раз я разгледзеў, які ўсё ж ён, пан Быкоўскі, ранімы, які па-дзіцячаму шчыры і радасны ва ўспрыманні жыцця. Дарэчы, тыя, хто блізка ведае Арнольда, кажуць, што менавіта такі ў жыцці і сам акцёр. То не дзіва, што Быкоўскі і Памазан так парадніліся. Асаблівa ж кранальнай атрымалася рэпліка ў Памазана-Быкоўскага, калі ён, увайшоўшы ў хату, з паказным крэктам пад смех і апладысменты сцягваў з чаравікаў фасонистыя галёшы. “Аднак, семдзесят гадоў ужо, пане Быкоўскі!..”



**Памазан-Быкоўскі і ў семдзесят гадоў закаханы ў Паўлінку**

Помняць тэатралы і тое, як у 2007-м, прымаючы прыз “Крыштальная Паўлінка”, вышэйшую ўзнагароду Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі, Памазан заўважыў з гумарам: сыграў я на сцэне Быкоўскага ажно з васьмю Паўлінкамі, а вось толькі дзевятая, крыштальная панна мяне пакахала.

Ягоная ж вялікая любоў да тэатра пачалася ў Камсамольску-на-Амуры, дзе ён нарадзіўся (а яго бацькі-камсамольцы будавалі гэты горад) і ў старэйшых класах удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці. Праўда, не адразу стаў акцёрам — вучыўся ў Львове на чыгуначніка і нават працаваў некаторы час памочнікам машыніста. А потым паступіў у тэатр-студыю імя Марыі Занькавецкай, дзе моцна пасябраваў з вядомым украінскім акцёрам Багданам Ступкам. Потым шляхі іх разышліся: Ступка ў Кіеве, а Памазан больш за сорак гадоў верны Купалаўскай сцэне.

Пасля спектакля юбіляр прымаў віншаванні, сімвалічна перадаваў сцэнічнаму двайніку-Быкоўскаму згаданыя ўжо галёшы ды іншыя належныя да вобраза аксесуары. Сярод удзельнікаў урачыстасці быў і Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Украіны ў Беларусі Ігар Ліхавый. Ён пазнаёміўся з Арнольдам Памазанам два гады таму, калі ў Мінску быў на гастролях Кіеўскі нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Івана Франка. “За тое ўдзячны мастацкаму кіраўніку гэтага тэатра, майму даўняму знаёмаму і калегу Багдану Ступку, — патлумачыў мне Ігар Дзмітрыевіч. — З таго часу мы і сустракаемся. Як мне падаецца, дзякуючы гадам сваёй львоўскай маладосці ў Памазана ёсць рысы ўкраінскага нацыянальнага характару, гэта бачна ў сцэнічным почырку акцёра.”

Застаецца дадаць, што цяпер майстэрства Арнольда Памазана можна пабачыць у спектаклях “Ідылія”, “Сымон-музыка”, “Паўлінка”, “Чычыкаў”, “Памінальная малітва”, “Вяселле” і іншых. А марыць жа ён сыграць і ролю сусветна вядомага рамантыка Сірано дэ Бержэрака.

**ПРА ШТО СЛОВА ГАВОРЫЦЬ**

# Раён і рэгіён

Кожная краіна мае свой адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, існуе шмат найменняў адпаведных адзінак. Таму некаторыя блытаюць: што называць **раёнам**, што **паветам**, а што **рэгіёнам**.

**Раён** — мнагазначнае слова. Гэта і мясцовасць, што вызначаецца паводле пэўных асаблівасцяў (напрыклад, *раёны засухі*), і адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка, што вылучаецца ўнутры краіны, вобласці, горада: *Цэнтральны раён горада Мінска* або *Нясвіжскі раён Мінскай вобласці*. Раёнам у размове могуць называць і горад ці райцэнтр або нават сельскую мясцовасць. Кажуць, напрыклад: *“Быў у раёне на нарадзе”* ці *“Бацькі жывуць на раёне”*. А яшчэ раён — гэта сінонім да слоў *каля, паблізу*: *“Жыву ў раёне вакзала, плошчы”*.

**Павет** — гэта адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Расійскай імперыі, якая ўваходзіла ў губерню, а таксама ў Вялікім княстве Літоўскім. У некаторых краінах свету падзел на паветы існуе цяпер.

**Рэгіён** жа — гэта вялікая вобласць, група суседніх краін або тэрыторый, аб'яднаныя па агульных прыметах. Кажуць, напрыклад, **эканамічны, геаграфічны рэгіён**.

Падрыхтавала
**Вераніка Бандаровіч**

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61**
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11
**E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб'ём выдання:** 1 друк. арк.
**Тыраж:** 2000
**Заказ:** 846